*Раіса Баравікова – пра мужчыну, з якім ёй хочацца быць штодня (3-я стар.).*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 19 (4374)**

7 сакавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*Прыгожая жанчына падабаецца вачам, а добрая – сэрцу; адна – як цудоўная рэч, а другая – як скарб.*
*Напалеон.*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ДОБРЫ ПРЫКЛАД

## «Ганна» выплаціць акцыянерам 344 тысячы рублёў

ААТ «Віцебская бройлерная птушкафабрыка» (брэнд «Ганна») абвясціла аб выплаце дывідэндаў за 2018 год.

Большую частку грошай атрымаюць дзяржаўныя акцыянеры: Віцебскі абласны і раённы выканкамы. Грошы ў бюджэт вобласці і горада Віцебска будуць пералічаны ў першую чаргу – да 22 красавіка 2019 года. Таксама ў «Ганны» больш за 450 фізічных асоб-мінарытарыяў.

ДАРЭЧЫ

## Ганна Норкус – Чалавек года



У лютым гэтага года генеральны дырэктар Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі Ганна Норкус была прызнана «Чалавекам года Віцебшчыны – 2018».

Ганаровага звання, як паведамлялася афіцыйна, яна ўдастоена за высокія дасягненні ў вытворчай дзейнасці: пад яе кіраўніцтвам птушкафабрыка паказвае стабільны фінансавы вынік працы. У мінулым годзе чысты прыбытак фабрыкі склаў 10 мільёнаў рублёў, альбо каля 5 мільёнаў долараў па афіцыйным курсе.

Праўда, гэта ўдвая менш, чым у 2014 годзе, калі ў жніўні Ганна Норкус (Шарэйка) была затрымана па падазрэнні ў злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі і амаль два гады правяла за кратамі. У чэрвені 2016 года суд прызнаў яе вінаватай і асудзіў на 2,5 года пазбаўлення волі. Норкус была вызвалена ў зале суда: з улікам адбытага пакарання і амністыі ў сувязі з 70-годдзем Перамогі. А за час яе арышту Віцебская бройлерная птушкафабрыка з прыбытковага прадпрыемства ператварылася ў стратнае: па выніках 2015 года на фабрыцы ўжо лічылі не прыбытак, а страты. Яны тады склалі каля 50 млрд недэнамінаваных рублёў. Выйшаўшы на волю і зноў узначаліўшы фабрыку, Ганна Норкус здолела хутка рэанімnetwork прадпрыемства.

Што да паказчыкаў 2014 года, то тады Віцебская бройлерная птушкафабрыка была ў дваццатцы самых прыбытковых ААТ краіны, чысты прыбытак прадпрыемства склаў 150 млрд недэнамінаваных рублёў, гэта больш за 12 мільёнаў долараў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

# Са святам 8 Сакавіка, дарагія і любімыя нашы жанчыны!

## Хай Ваша жыццё праменіцца сонечным святлом, лагодай і любоўю!



### Княгіня харастваThis

Княгіня харастваа, я верны Ваш халоп,
Капрызаў Вашых недаступны лёкай,
І колькі навальніц ні адгуло б,
Мне не наблізіцца да Вас, далёкай.
Я ведаю, што і не ведаеце Вы,
Хто ў Вас адну нахабна закаханы,
Хто толькі думкаю аб Вас жывы
І на крыжы міласці ўкрыжаваны.
Вы долам, як нябёсамі, йдзяцё,
Каб у прыгнечаны душы світала,
І радуецца, як дзіцё, жыццё,
Што на зямлю каханне завітала.

Рыгор БАРАДУЛІН.

ЗА ПРОХОДНОЙ

# Рабочие Борисовского хрустального завода были в шаге от забастовки

*«Нам с декабря не выплачивают зарплату, мы написали уже третье заявление в Администрацию президента, и в понедельник мы приходим в цех, но приступать к работе не будем», – об этом в минувшую пятницу нам рассказали рабочие цеха медицинского стекла Борисовского хрустального завода имени Ф.Дзержинского.*

*В понедельник мы решили уточнить, как дела на хрустальном заводе.*

*«Наш цех №3 – единственный, который сейчас работает,* – рассказали рабочие. – *Другой цех, где производили хрусталь, стоит. А мы выпускаем медицинские ампулы. В прошлом году мы работали всего лишь два месяца. Когда не работаем, нам платят так называемый цельносменный простой – порядка 80 рублей в месяц.*

*Сейчас у нас в день зарплата 15 рублей 92 копейки. То есть фактически ничего! Мы посчитали, что в феврале проработали 20 дней. Получается, за месяц заработали чуть больше 300 рублей...*

*Мы без зарплаты с конца минувшего года. В субботу на предприятие приезжали заместитель председателя Минского облисполкома, замминистра архитектуры и строительства и новый антикризисный управляющий. Они нам рассказывали, что и как у нас будет в дальнейшем. И пообещали, что деньги выплатят в самое ближайшее время. Поэтому забастовки не было, мы работали».*

Бывший антикризисный управляющий **Николай Гаевский** подтвердил «Народной Воле», что уже действительно не работает на Борисовском хрустальном заводе. Сказал, что ушел на пенсию. При этом ситуацию на предприятии Гаевский знает отлично и говорит, что с зарплатой на заводе действительно есть сложности: *«Но когда закончится реконструкция предприятия, все будет нормально».*

Дело о банкротстве Борисовского хрустального завода было начато в 2013 году. Сообщалось, что на то время завод имел кредиторскую задолженность 82 миллиарда неденоминированных рублей. Это задолженность по платежам в госбюджет, за потребленные электроэнергию и газ, а также за поставленные сырье и материалы. Антикризисный управляющий Николай Гаевский в интервью агентству «Бизнес-новости» говорил, что основной причиной неплатежеспособности предприятия стала *«технологическая авария 2011 года, которая повредила оборудование для производства медицинского стекла»: «Это не позволило Борисовскому хрустальному заводу выполнить доведенные показатели по объемам производства и воспользоваться мерами господдержки в рамках указов президента. Кроме того, из-за произошедшей аварии часть персонала на предприятии оказалась незадействованной, но зарплата продолжала выплачиваться, что увеличило издержки».*

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Александр ПЕТРУСЕНКО: «Назад дороги нет…»

*Сейчас со всеми делами на Борисовском хрустальном заводе придется разбираться уже новому антикризисному управляющему – **Александру Петрусенко.** Александр Николаевич рассказал «Народной Воле», что буквально вчера все долги перед работниками завода погасили.*

– Забастовки на заводе нет, все в порядке, – *говорит Александр Петрусенко.* – Рабочие цеха №3 во время пресс-конференции Александра Лукашенко дозвонились до Администрации президента. И Наталья Кочанова дала поручение разобраться в сложившейся ситуации. В субботу сюда приехали заместитель министра архитектуры, зампредседателя облисполкома, начальник отдела экономики Борисовского райисполкома и я. Я назначен управляющим совсем недавно, а рабочие обратились с требованием выплатить зарплату, когда меня здесь еще не было. Сейчас мы полностью погасили задолженность по зарплате, проблема снята. Ну а дальше – будем смотреть. Производство только недавно начало работать – запустились с февраля. До этого были лишь попытки запуска, и цех работал непродолжительное время. Оборудование было старое…

Реконструкция цехов идет полным ходом. Хрустальный цех давно не работает, но мы сейчас налаживаем отношения с «Неманом» (Березовка, Гродненская область), они отбирают продукцию и сделают специальное исследование, чтобы мы смогли совместно с ними запустить участок производства. По поводу хрустального цеха были разные разговоры, но до практических предложений дело так и не дошло… Мы конкуренты для всех – и в России, и в Украине есть аналогичные производства. Мы хотим производство ориентировать прежде всего на свой собственный рынок.

План санации предприятия разработан до конца года, с осени уже должна быть эффективная работа на полную катушку. А сейчас будет постепенное наращивание объема производства, количество работников цеха – там должно работать не 36, как сегодня, а под 200 человек.

А зарплаты такие маленькие, потому что выпуска продукции не было. Предприятие пять лет работает в состоянии санации и практически банкротства. Но назад дороги нет, надо работать!

**Марина КОКТЫШ.**

АКЦЫЯ

## «Пралетарыі ўсіх краін, звальняйцеся!»

Учора ў мінскім парку Дружбы народаў на плошчы Бангалор прайшоў пікет-дэманстрацыя «За адмену ўсіх забарон і забарону ўсіх адмен».

Яе зладзілі валанцёры і валанцёркі незарэгістраванага праваабарончага цэнтра «Вясна». Гэта першая ў Беларусі акцыя, праведзеная паводле заявачнага прынцыпу, паведамляе euroradio.fm.

У акцыі бралі ўдзел сем чалавек. Яны трымалі плакаты «Пралетарыі ўсіх краін, звальняйцеся!», «Ніколі такога не было, і вось ізноў», «Ой, усё»…

НУ І НУ!

## Чаму кілаграм агуркоў каштуе, як кіло мяса?

Некалькі дзён запар сацыяльныя сеткі гулі з-за гэтага фотаздымка: у «Еўраопце» кілаграм беларускіх парніковых калючых агуркоў прадавалі за 11 рублёў 99 капеек – у эквіваленце амаль шэсць долараў. Дорага? Здаецца, вельмі, нават улічваючы тое, што вырошчваць гэтую зялёную гародніну давялося ў зімовы перыяд.




Тэлефанаваць кіраўніцтву «Еўраопта» і высвятляць, чаму ў іх гандлёвай сетцы агуркі прадаюцца па такім кошце, было бессэнсоўна. Па-першае, у Беларусі дзейнічае закон аб вольным коштаўтварэнні, а гэта азначае, што крамы самастойна вызначаюць кошт тавару і фарміруюць так званую гандлёвую надбаўку. Пакупнік у гэтым выпадку галасуе ўласным кашальком: хоча чалавек купіць такі нятанны прадукт – купіць, не – дык згніюць тыя агуркі. Па-другое, зімой затраты на тое, каб вырасціць агурок, сапраўды значна большыя, чым летам. А па-трэцяе: каб быць да канца аб'ектыўнымі, вечарам 5 сакавіка аўтар гэтых радкоў наведаў адзін з іншых магазінаў сеткі «Еўраопт». Там на паліцах ляжалі тыя самыя беларускія калючыя агуркі, але па ніжэйшым, чым на пачатку тыдня, кошце – па 7,99 рубля за кіло.

Таксама нятанна – прыкладна столькі ж каштуе кілаграм свініны. Здаецца, каб выгадаваць, выкарміць і забіць свінню, часу і сродкаў спатрэбіцца куды больш, чым вырасціць кілаграм агуркоў.

Аднак самае важнае ў «агурковым пытанні» – гэта закупачны кошт кілаграма гэтай зялёнай гародніны. Даведаўшыся пра яго, можна зразумець, якую накрутку робяць крамы.

Я патэлефанаваў у гандлёвы аддзел Мінскага парнікова-цяплічнага камбіната, і мне сказалі, што кілаграм сярэдняплоднага агурка яны прадаюць па 6 рублёў. У агракамбінаце «Ждановічы» аналагічны прадукт, упакаваны ў гафраскрыню, гатовы рэалізаваць па 4,66 рубля за кіло.

У Гомельскім камунальна-сельскагаспадарчым прадпрыемстве «Брылёва» цяплічныя агуркі гатунку «Атлет» каштуюць 6,50 рубля, а гатунку «Яні» – 6 рублёў за кілаграм.

Высновa напрошваецца сама сабой: купляць агуркі амаль па 12 рублёў – зусім не абавязкова. Нават ранняй вясной іх можна набыць значна танней. І з кожным днём, які набліжае нас да лета, кошт на гэтую вадзяністую гародніну будзе зніжацца.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Не в ту степь

Главной задачей текущего года правительство считает повышение эффективности и конкурентоспособности госсектора – об этом в очередной раз на заседании Совмина заявил премьер С.Румас. Он честно признал, что рыночные инструменты для финансового оздоровления предприятий не работают и многие госпредприятия по-прежнему рассчитывают исключительно на бюджетную поддержку. Премьер снова предупредил, что субъекты хозяйствования, не выполнившие условия оказанной им господдержки и не достигшие задекларированных целей ее предоставления, больше не вправе рассчитывать на бюджетные средства.

Но это на словах. А на деле? Правительство тут же оказывает поддержку ряду госпредприятий из госбюджета. Как говорится: поп свое, а черт свое.

А ведь наши кредиторы – МВФ и Всемирный банк – уже давно аргументированно обосновали, как реформировать корпоративное управление госпредприятиями. Вот и ждешь от правительства каких-то шагов в сторону разделения государством функций управления и собственника. Чтобы министерства и концерны не управляли непосредственно хозяйственной деятельностью предприятий. Чтобы отраслевые органы занимались выработкой экономической и промышленной политики. Чтобы, для начала, переименовали Министерство промышленности в Министерство промышленной политики с соответствующими изменениями в его функциях. Чтобы правительство передало госпредприятия от министерств и госконцернов под управление агентству по управлению госимуществом, а количество министерств было сокращено. Чтобы в конце концов сдвинулась с мертвой точки приватизация ведущих госпредприятий. В принципе, международные кредитно-финансовые институты расписали для Беларуси, как пошагово провести глубокие структурные реформы.

Но что мы видим? Как заявил вице-премьер И.Ляшенко, Минпром пока решено не наделять новыми функциями; по его мнению, надо заняться сначала оптимизацией производственных процессов и финансовым оздоровлением предприятий, а уж потом можно подумать над расширением задач Минпрома в направлении промышленной политики. Первый вице-премьер А.Турчин сообщил, что в Администрацию президента внесен проект указа о том, чтобы наблюдательные советы предприятий, где есть доля государства, возглавили высшие чиновники. Намечен топ-100 акционерных обществ, на которых будет выстроена эффективная система корпоративного управления. И если дела пойдут на поправку на этих предприятиях-лидерах, то нам по плечу будет, не поверите, и 150 млрд ВВП в долларовом эквиваленте.

Так в какую сторону собирается двигаться правительство? В сторону разгосударствления предприятий или в сторону увеличения присутствия государства в их хозяйственной деятельности? В памяти еще свежа «золотая акция», когда представитель власти мог наложить вето на любое решение акционерного собрания. От этого, слава Богу, ушли. Или, как говорил когда-то российский премьер В.Черномырдин, никогда не было и вот опять? Выражаясь другим языком: будет «смотрящий» в акционерном обществе?

С тем, что большинство ведущих госпредприятий находится в скверном финансовом положении, о чем упоминал веце-премьер И.Ляшенко, спорить не приходится. Экономика Беларуси утонула в проблемных долгах и неплатежах. За 2018 год крупные и средние предприятия направили на погашение кредитов и займов 60,7 млрд рублей. По сравнению с 2017 годом долговое бремя предприятий выросло на 20%. На эти цели белорусские компании и фирмы были вынуждены отвлечь 27,3% выручки. Просроченная внутренняя кредиторская задолженность за прошлый год увеличилась на 14,9% до 8,3 млрд рублей, и доля просрочки в общей задолженности выросла с 15,9% до 16,9%.

Лидером по просрочке кредиторки является как раз промышленность. Ее токсичные долги возросли на 29,7% – до 3,6 млрд рублей. Просроченная дебиторская задолженность в реальном секторе за 2018 год поднялась на 13,4% – до 8 млрд рублей, в том числе просроченная дебиторка в промышленности увеличилась на 13,9%, – до 4,6 млрд рублей. Просроченные долги по кредитам и займам подскочили на 17,5% – до 2,9 млрд рублей. Подобная картина маслом видна и у банков. К 1 января сумма необслуживаемых активов (в основном наиболее проблемных к погашению кредитов) у крупных банков достигла 2,7 млрд рублей.

Видимо, за улучшение финансового состояния промышленных предприятий правительству предстоит бороться еще очень долго. Не логичнее ли поставить лошадь впереди телеги – начать наконец те самые структурные реформы, включая преобразование корпоративного управления госпредприятиями. Тогда и финансовое состояние всей экономики оздоровится.

Эксперты, в том числе МВФ, давно рекомендовали властям провести сегментацию госпредприятий: одни будут держаться на плаву, другие еще можно оживить, санировать их бизнес-модель, от третьих – только избавляться. По третьим у правительства нет соответствующих полномочий. Это прерогатива главы государства. Главная проблема – куда трудоустроить высвободившихся работников? У нас ведь безработица 0,3%. По теории их должен поглотить в первую очередь мелкий и средний частный бизнес. Пока же на практике он поглощает сам себя.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Прысуд адкладваецца…

На 12 сакавіка адкладзена абвяшчэнне судовай пастановы па гучнай крымінальнай справе былога начальніка Галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама **Сяргея Барысевіча**, а таксама іншых фігурантаў гэтай справы.

Барысевічу пракурор папрасіў прызначыць беспрэцэдэнтнае пакаранне – 14 гадоў пазбаўлення волі!

Прычына, па якой дата агалошвання прыгавора перанесена з 4 на 12 сакавіка, банальная – захварэў суддзя.

Паводле матэрыялаў крымінальнай справы, кіраўніцтва ГУСР «абклала данінай» камбінаты школьнага харчавання Мінска, а таксама рэгулярна збірала грошы з гандлёвых сетак. Барысевіч у судзе прызнаў віну часткова, заявіўшы, што браў грошы не толькі для сябе, але і для сваіх начальнікаў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ФІНАНСЫ

# Замест тарыфнай стаўкі – базавая

*Урад пастановай №138 ад 28 лютага вызначыў для бюджэтнікаў новую тарыфную сетку і базавую стаўку.*

З 1 студзеня 2020 года работнікам бюджэтных арганізацый заробкі будуць разлічваць па-новаму: замест тарыфнай стаўкі першага разраду будуць выкарыстоўваць базавую стаўку. Яе велічыню сваёй пастановай ўрад ўстанавіў у памеры 180 рублёў. Але...

Дыскусія пра тое, што неабходна мяняць механізм налічэння заработнай платы бюджэтнікам, пачалася яшчэ ў 2017 годзе з падачы афіцыйных прафсаюзаў. *«У бюджэтнай сферы складваецца недапушчальная сітуацыя*, – заяўляў у кастрычніку 2017 года на пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях старшыня Федэрацыі прафсаюзаў **Міхаіл Орда.** – *Чалавек адпрацаваў 22 дні па восем гадзін у дзень, і яму па сённяшніх тарыфах налічваюць заработную плату менш за «мінімалку». І гэтым людзям даводзіцца даплачваць да мінімальнай зарплаты».* Такіх работнікаў у бюджэтнай сферы, паводле падлікаў Орды, аказалася 27% (!). *«Гэтую сістэму трэба ў корані мяняць. Я маю на ўвазе тарыфную сетку»*, – рэзюмаваў тады Орда.

Прафсаюзы былі пачуты. І пазней на ўзроўні ўрада зайшла гаворка пра тое, што замест тарыфнай стаўкі першага разраду трэба ўвесці базавую стаўку і яе памер наблізіць да бюджэту пражытачнага мінімуму (БПМ). Падкрэслівалася, што гэта дасць магчымасць умацаваць тарыфную частку заработнай платы. Але што атрымалася ў рэальнасці?

Нават сёння БПМ складае 216 рублёў 90 капеек, і, напэўна, у 2020 годзе ён будзе яшчэ вышэйшы, таму што Саўмін зацвярджае яго кожны квартал. Бюджэт пражытачнага мінімуму – гэта сукупны кошт прадуктаў, рэчаў, лекаў і паслуг першай неабходнасці, якія жыццёва важныя для кожнага чалавека. БПМ у нашай краіне, на жаль, пастаянна расце.

Выходзіць, што базавую стаўку, якую будуць з 1 студзеня 2020 года выкарыстоўваць пры вылічэнні акладаў работнікаў бюджэтных арганізацый, да БПМ не прывязалі – яе памер меншы за цяперашні БПМ на 17% (на 36 рублёў 90 капеек).

Дарэчы, памер базавай стаўкі, як цяпер і памер тарыфнай стаўкі першага разраду, штогод будзе вызначаць урад, як правіла, з 1 студзеня каляндарнага года з улікам прагнозу асноўных параметраў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі.

ДАРЭЧЫ

## Па новай сетцы...

У пастанове Савета міністраў акрамя базавай стаўкі прапісана і новая тарыфная сетка, якая пачне дзейнічаць з 1 студзеня 2020 года. Як паведамлялася, кіраўнік дзяржавы 18 студзеня 2019 года падпісаў указ №27, згодна з якім замест дзеючай зараз 27-разраднай тарыфнай сеткі ўводзіцца 18-разрадная.

Таксама трэба адзначыць, што з 1 студзеня 2020 года спрашчаецца структура заработнай платы работнікаў бюджэтных арганізацый. Яна будзе складацца з акладу, стымулюючых (надбаўкі, прэміі) і кампенсуючых (даплаты) выплат.

У ТЭМУ

## Зарплата «чыстымі» – 636 рублёў

На фоне намаганнняў урада зрабіць годнымі заробкі бюджэтнікаў сярэдняя зарплата ў гэтай сферы ўсё роўна не дацягвае да славутых 500 долараў (1070 рублёў па сённяшнім афіцыйным курсе). Дый што там не дацягвае! У гэтым годзе яна зноў нават не наблізіцца да такой лічбы, бо планы ўрада – у 2019 годзе сярэдні заробак у бюджэтнай сферы павінен вырасці да 810 рублёў.

Летась гэты паказчык быў яшчэ меншы. У 2018 годзе сярэдні налічаны заробак бюджэтнікаў у Беларусі склаў 739,9 рубля. Гэта сума да выплаты падаткаў. Чыстымі на рукі ў сярэднім выходзіла ўсяго каля 636 рублёў.

Таксама ў 2019 годзе плануецца дасягнуць узроўню сярэдняй зарплаты ў бюджэтных арганізацыях да 80% ад сярэдняй па краіне. Выйсці на гэты паказчык улады імкнуліся і ў 2017-м, і ў 2018 годзе, але не атрымалася. Летась, напрыклад, дадзены паказчык склаў 77%.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

КАНФЛІКТ

# Таксісты супраць «Максіма»

*У Гродне, як і ў іншых абласных гарадах, на рынку пасажырскіх перавозак з’явіўся новы буйны расійскі гулец – інфармацыйны сэрвіс «Максім», які сваімі коштамі перабівае заробкі традыцыйным фірмам. Таксісты настроены рашуча, абвінавачваюць сэрвіс у нячэснай канкурэнцыі і дамагаюцца ад мясцовых улад, каб яго дзейнасць адпавядала беларускаму заканадаўству.*

### На чым палягае нячэсная канкурэнцыя?

Першыя таксі «Максім» з’явіліся ў Гродне ў жніўні мінулага года. А ўжо ў верасні кіраўнікі традыцыйных фірмаў таксі пачалі звяртацца да мясцовых улад з патрабаваннем спыніць нячэсную канкурэнцыю. Аднак у Гродне і зараз вісіць рэклама, якая заклікае кліентаў карыстацца таксі «Максім», у якой паездка каштуе ад 1 рубля.

Пра сутнасць нячэснай канкурэнцыі мне распавядае кіраўнік традыцыйнай гродзенскай фірмы таксі «Карэта» **Віктар Хоцім**. Паводле яго слоў, «Максім» – гэта нават не фірма таксі, а інфармацыйны сэрвіс. У яго няма свайго аўтапарку і тэхслужбы, але ёсць кіроўцы з аўтамабілямі, якія ўстанавілі на свае тэлефоны адпаведны дадатак, праз які атрымліваюць заказы і развозяць кліентаў.

Спадар Хоцім кажа, што яны не называюць сябе службай таксі, а тлумачаць, што папросту арандуюць машыны для перавозкі кліентаў.

*«Мы не можам з імі канкурыраваць з той прычыны, што аплачваем усе страхоўкі, у нас легальна аформлена праца кіроўцаў, а гэта азначае, што мы аплачваем усе падаткі. У нас стаяць таксометры, мы аплачваем рахункі за іх абслугоўванне. Нашы кіроўцы штодня праходзяць медагляд, і гэта таксама аплачвае фірма. А ўявіце сабе, што нашы канкурэнты нічога гэтага не робяць і ні за што з гэтага не плацяць»,* – кажа кіраўнік фірмы «Карэта».

Большасць аўтамабіляў сэрвісу «Максім», паводле яго слоў, працуюць нават без апазнавальных знакаў і не могуць, паводле заканадаўства, выкарыстоўвацца для перавозкі пасажыраў. І няма нічога дзіўнага, што яны маюць магчымасць паставіць кошты ніжэй за рыначныя і тым самым перацягваюць на свой бок кліентаў.




### За «Максіма» адказвае прэс-сакратар

У Гродне знаходзіцца офіс «Максіма», і першае, што я зрабіў, наведаў яго. Прыемныя маладыя людзі ва ўтульным кабінеце, аднак, адмовіліся размаўляць з журналістам пра асаблівасці сваёй працы і дзейнасць інфармацыйнага сэрвісу ў Гродне. Праўда, запісалі мэйл прэс-сакратара і прапанавалі з усімі пытаннямі звяртацца да яго.

На мой ліст з пытаннямі хутка прыйшоў адказ. Мяркуючы па нумары тэлефона, які змешчаны на лісце, адказ прыйшоў з Расіі. Прэс-сакратар сэрвісу «Максім» **Марыя Пухава** тлумачыць, што негатыўнае стаўленне да іх кампаніі звязана з відавочным – маўляў, сучасныя тэхналогіі змяняюць рынак таксі ва ўсім свеце, а некаторыя людзі не хочуць з гэтым прымірыцца.

Паводле слоў Пухавай, сучасныя пасажыры хочуць атрымліваць даступную стандартную паслугу і не пераплачваць за паездку. І таму, маўляў, «Максім» выкарыстоўвае ў сваім бізнесе новыя тэхналогіі.

*«Максім» – не таксапарк. Гэта ІТ-кампанія, інфармацыйны сэрвіс для ўсіх удзельнікаў рынку*, – піша прэс-сакратар Пухава. – *Мы не канкурэнты фірмаў таксі, а іх партнёры, якія дапамагаюць працаваць у новых умовах».*

Што тычыцца ўмоў перавозак пасажыраў, то прэс-сакратар «Максіма» цвёрда абапіраецца на заканадаўства Рэспублікі Беларусь. А гэта азначае, што партнёрам сэрвісу, у тым ліку кіроўцам аўтапаркаў альбо са статусам ІП, неабходна мець для працы таксометр і СКПО (сродак кантролю падатковых органаў), адмысловую страхоўку для таксі на машыну і пасажыра, атрымаць картку і меддаведку, праходзіць тэхагляд, а перад пачаткам працы – агляд у медыка і механіка.

Карацей, усе патрабаванні па перавозцы пасажыраў, якія патрабуецца выконваць беларускім заканадаўствам, у дакументах інфармацыйнага сэрвісу адлюстраваны.

### А што насамрэч?

Размаўляю з кіроўцам, які некалькі месяцаў адпрацаваў з сэрвісам «Максім». Завуць Дзмітрый, прозвішча назваць не пагаджаецца, інакш размовы не адбудзецца. Яму трохі больш за 20 гадоў.

Дзмітрый распавёў, што дамову на працу з ім заключылі вусна, ніхто ніякіх папер на рукі не выдаваў, і ён нічога не падпісваў. Не запыталіся нават, ці мае ён пасведчанне індывідуальнага прадпрымальніка.

*«У мяне папрасілі пасведчанне кіроўцы і тэхпашпарт аўтамабіля і пасля гэтага ўсталявалі ў тэлефон дадатак і выдалі лагін*, – распавядае Дзмітрый. – *З таго ж самага дня я і працаваў амаль тры месяцы, у мяне не было ні меддаведкі, ні страхоўкі на кіроўцу і пасажыраў, машына не была абклеена апазнавальнымі знакамі, а таксама я не меў ні таксометра, ні СКПО і не праходзіў перад выхадам на лінію медагляд».*

Дзмітрый кажа, што апошнім часам сэрвіс «Максім» пачаў набываць свае машыны і прадастаўляць іх у арэнду кіроўцам. Паводле яго слоў, новыя машыны абсталяваны ўсім неабходным для працы, але іх у горадзе пакуль вельмі мала. Пераважная большасць тых, хто супрацоўнічае з «Максімам», ездзіць на старых, магчыма, нават небяспечных для перавозкі пасажыраў аўтамабілях, якія да ўсяго ніякім чынам не абазначаны як таксі.

*«Так, як я, працавала мая дзяўчына, але нядаўна мусіла перайсці ў іншы сэрвіс*, – распавядае Дзмітрый. – *Аказваецца, у праграме «Максіма», якая загружана ў тэлефон, ёсць фотакантроль, і праз кожныя некалькі тыдняў неабходна яго праходзіць. Дык вось убачылі, што яе машына нават не абклеена апазнавальнымі знакамі, і за гэта сэрвіс выставіў ёй штраф. Ёй прапанавалі замест 10 працэнтаў заробленай сумы адлічваць 30. А што тады сабе застанецца? Вось яна і перайшла ў іншую фірму».*

На адным з гродзенскіх сайтаў некалькі дзён вісела відэа: кіроўца аўтамабіля, які супрацоўнічае з «Максімам», абкладае мацюкамі кліента за тое, што той папрасіў яго ехаць да месца прызначэння іншай дарогай, каб паказаць сябру стары горад.

Кліента ўдалося знайсці, і ён таксама засведчыў, што ў машыне не было ні таксометра, ні сродкаў СКПО. Машына, паводле яго сцвярджэння, мела не менш за 20 гадоў, была без апазнавальных знакаў. Пасля інцыдэнту ён напісаў скаргу кіраўніцтву сэрвісу «Максім», а адтуль атрымаў адказ: маўляў, сэрвіс не нясе адказнасці за кіроўцу і стан ягонага аўтамабіля.

*«Але якім чынам і на якой падставе сэрвіс «Максім» заключае дамову на працу з кіроўцам, у якога аўтамабіль не адпавядае правілам перавозкі пасажыраў? Чаму «Максім» бярэ заказ на выкананне паслугі, але ніякім чынам не нясе адказнасці за яе якасць?»* – задаецца пытаннем пакрыўджаны кліент.

Негатыўных гісторый, звязаных з дзейнасцю «Максіма», можна пачуць мноства не толькі ў Гродне, падобныя факты адзначаны і ў Гомелі, і ў Магілёве, і ў іншых гарадах Беларусі, дзе працуе інфармацыйны сэрвіс «Максім». Публікацый на гэтую тэму ў мясцовых СМІ шмат. А што ўлады?

### Транспартная інспекцыя чакае адказу з міністэрства

Начальнік Гродзенскай транспартнай інспекцыі **Мікалай Цішко** сказаў «Народнай Волі», што з праблемай знаёмы, паколькі неаднойчы даводзілася размаўляць з прадстаўнікамі інфармацыйнага сэрвісу «Максім», а таксама атрымліваць шматлікія скаргі на яго дзейнасць ад пасажыраў таксі.

*«Яны прыходзілі да нас са скаргай, што, маўляў, транспартная інспекцыя Гродзенскай вобласці працуе з імі прадузята*, – канстатуе спадар Цішко. – *Потым напісалі ліст у Міністэрства транспарту Беларусі, з тым каб ім далі тлумачэнні адносна таго, як і на якіх умовах можа і павінен працаваць падобны інфармацыйны сэрвіс, але адказ з міністэрства пакуль не прыходзіў».*

Паводле слоў Цішко, яны атрымліваюць шмат скаргаў у дачыненні таксістаў, якія працуюць з сэрвісам «Максім», паколькі тыя парушаюць правілы перавозкі пасажыраў, а часам наогул не прыязджаюць на выклік кліентаў альбо спазняюцца. Транспартная інспекцыя рэагуе на гэтыя скаргі, але сітуацыя прынцыпова не мяняецца.

*«Справа ў тым, што мы не маем права зараз праводзіць праверкі на лініі ў адпаведнасці з 510-м указам*, – канстатуе Мікалай Цішко. – *І вось праз гэтыя праблемы нам вельмі складана з імі змагацца, хаця мы імкнёмся нешта ўсё ж рабіць, каб уплываць на сітуацыю».*

Дарэчы, на мінулым тыдні таксісты Гомеля выказалі сваё абурэнне працай калег, якія супрацоўнічаюць з інфармацыйным сэрвісам «Максім». Насупраць Гомельскага аблвыканкама з’ехаліся больш за 30 машын з розных фірмаў, якія аказваюць паслугі па перавозцы пасажыраў, і патрабавалі, каб мясцовыя ўлады звярнулі ўвагу на працу інфармацыйнага сэрвісу.

Легальныя перавозчыкі хочуць чэснай канкурэнцыі, а не дзейнічаць так, як інфармацыйны сэрвіс, які прыйшоў у Беларусь з Расіі. Чэснай канкурэнцыі хочуць і таксісты ў астатніх беларускіх гарадах, дзе працуе «Максім».

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На здымку: рэклама інфармацыйнага сэрвісу «Максім» у Гродне.**

СІТУАЦЫЯ

# Чаму арыштавалі машыну і прычэп Комліка і кватэру Фядыніча?

*Аддзелы прымусовага выканання Цэнтральнага і Фрунзенскага раёнаў Мінска распачалі выканаўчую справу ў дачыненні да лідараў незалежнага прафсаюза РЭП.*

З улікам канфіскаваных падчасператрусаў грошай у жніўні 2017 года Генадзю Фядынічу і Ігару Комліку заставалася выплаціць каля 4 тысяч беларускіх рублёў. Але судовыя выканаўцы хочуць спагнаць больш за 50 тысяч паводле прысуду па «справе прафсаюзаў», а таксама за правядзенне экспертыз і кампенсацыю дзяржаўнай пошліны.

«*У звязку з гэтым і наклалі арышт на кватэру Фядыніча, мой аўтамабіль «Пежо-308», а таксама на прычэп да яго*, – распавёў «Народнай Волі» **Ігар Комлік**. – *Але сітуацыя атрымліваецца дзіўная. Згодна з вынесеным нам прысудам, грашовыя сродкі, якія ў нас забралі падчас вобшукаў, павінны былі пайсці ў залік пагашэння іску, дзяржаўнай пошліны і іншых працэсуальных выдаткаў.*

*Аднак судовыя выканаўцы даслалі нам паперы з сумай без уліку гэтых забраных падчасператрусаў грошай. Хаця па законе яны павінны былі канфіскаваную валюту перавесці ў рублі, паведаміць нам, па якім курсе прайшоў абмен і ці павінны мы пасля гэтага яшчэ што-небудзь*».

Паводле слоў Ігара Комліка, акрамя гэтага яшчэ вылічваюць 50 працэнтаў прымусовага збору з яго заробку.

«*Навошта гэта рабіць?* – здзіўляецца прафсаюзны актывіст. – *Я ж не адмаўляўся плаціць добраахвотна і папрасіў судовых выканаўцаў даць мне даведку, якая сума пагашана і колькі яшчэ неабходна заплаціць. Сітуацыя мяне абурае, бо, напрыклад, аўтамабіль я зараз не магу прадаць альбо аформіць яго на іншага чалавека.*

*Таму я і напісаў скаргу на імя начальніка аддзела прымусовага выканання Фрунзенскага раёна і падаў хадайніцтва, каб выканаўчая справа была прыпынена да таго часу, пакуль дакладна не высветляць, якая за мной застаецца запазычанасць*».

Наколькі вядома, такую ж скаргу падаў і **Генадзь Фядыніч**.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КУЛУАРЫ

# Што паабяцаў палітыкам міністр юстыцыі Алег Сліжэўскі?

*Учора **Сяргей Калякін, Алег Трусаў** і **Анатоль Лябедзька** сустрэліся з міністрам юстыцыі **Алегам Сліжэўскім**.*

*Палітыкі абмеркавалі з міністрам падрыхтоўку змен у закон аб палітычных партыях, а таксама параіліся з ім наконт рэгістрацыі грамадскага аб'яднання «Дэпутацкі клуб».*

*«Народная Воля» распытала былога старшыню АГП, а цяпер – кіраўніка цэнтра даследаванняў і прагнозаў развіцця «Еўрапейскі дыялог» **Анатоля Лябедзьку** пра закулісse гэтай сустрэчы.*

– Адразу пачну з прыемнай навіны: міністр чытае «Народную Волю» і нават пахваліў старшыню партыі «Справядлівы свет» **Сяргея Калякіна,** які ў мінулым нумары газеты слушна выказаўся наконт закона аб палітычных партыях, – *гаворыць Анатоль Лябедзька*. – Сустрэча была даволі дзелавой, ніхто не спрабаваў выпендрыцца адзін перад адным. У нас было два пытанні. Мы праінфармавалі міністра пра сустрэчу дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў. Адным з вынікаў сустрэчы было рашэнне аб стварэнні грамадскага аб'яднання «Дэпутацкі клуб». Такія аб'яднанні дзейнічаюць практычна ва ўсіх краінах. Лічыцца нармальным, калі дэпутат, паўнамоцтвы якога завяршаюцца, застаецца ў грамадскім жыцці. Мы сказалі міністру, што маем жаданне хутка, цывілізавана і нескандальна зарэгістраваць аб'яднанне. І гатовы да нейкіх папярэдніх сустрэч, высвятлення нейкіх спрэчных момантаў. **Алег Сліжэўскі** сказаў, што яны не практыкуюць кансультацый пасля таго, як дакументы ўжо пададзены на рэгістрацыю, але разам з тым прапанаваў: калі будуць нейкія сумненні ці пытанні, то мы можам перадаць іх начальніку адпаведнага ўпраўлення, і нас пракансультуюць. Гэта такі прыемны кампраміс.

Хто будзе кіраваць «Дэпутацкім клубам»? Пакуль працуе аргкамітэт у складзе дзевяці чалавек, яго ачольвае **Мечыслаў Грыб**, я – адказны сакратар. Наконт кіраўніцтва мы пакуль не разважалі, думаю, гэта вырашыць сход.

Што тычыцца закона аб палітычных партыях, то мяне крыху насцярожыла навіна аб тым, што Мінюст вывучае магчымасць узмацніць кантроль за фінансаваннем партый. У нас і так нельга прадыхнуць! Няўжо некаму здаецца, што палітычныя партыі варочаюць мільёнамі? Вядома, што партыі збіраюць ахвяраванні, каб утрымліваць офісы і падтрымліваць жыццяздольнасць. Ці не ўзнікне па новым законе праблем у тых, хто дапамагае партыям? Міністр Сліжэўскі спаслаўся на рэкамендацыі Групы дзяржаў па барацьбе з карупцыяй (GRECO) – такая структура працуе ў Савеце Еўропы і займаецца праблемамі карупцыі. Але да гэтага часу ўлады не дазваляюць друкаваць даклады GRECO аб праблемах карупцыі ў Беларусі. І таму я запытаўся: можа, наша краіна ўжо зняла забарону на такія публікацыі? Аказалася, не…

Міністр прапанаваў нам аформіць свае варыянты змен у закон аб палітычных партыях і паабяцаў запрасіць прадстаўнікоў партый азнаёміцца з новым законапраектам да таго, як ён будзе ўнесены ў Палату прадстаўнікоў.

Адным словам, сустрэча атрымалася канструктыўнай.

**Марына КОКТЫШ.**

ДЫЯЛОГІ

## Міхась СКОБЛА – Раіса БАРАВІКОВА

# «Каханне трэба гадаваць і аберагаць, як малады сад»

*Мы разам ездзілі ў Белаазёрск – на чарговы паэтычны фестываль «Бабіна лета з Нінай Мацяш». Я міжволі любаваўся, як там, на Бярозаўшчыне, у маёй і так заўжды натхнёнай спадарожніцы нібы выраслі дадатковыя крылы. Відаць, радзіма пазнае і акрыляе ўсіх, хто вяртаецца на кругі свае – і здалёку, і зблізку. Тады ж мы дамовіліся пра дыялог для «Народнай Волі» з нейкай адпаведнай нагоды. І 8 Сакавіка, як падаецца, – найлепшая нагода пагутарыць з паэткай Раісай Баравіковай, чыя пранікнёная лірыка саграває сэрцы чытачоў ужо не адно дзесяцігоддзе.*

### «Мама распісала ўсю хату прыгожымі кветкамі»

**– Раіса Андрэеўна, у вас ёсць прысвечаныя маці радкі: «*Жаночы лёс – / няпросты лёс, / я гэта знаю, / удосталь смеху, ўдосталь слёз – / усё прымаю*». Калі вы прыгадваеце сваю маму, што найперш успамінаецца?**

– Успамінаецца, як мая мама – Ніна Уладзіміраўна Шыманская – штовечар малілася, гаварыла пацеры, як у нас казалі. Успамінаецца, што калі лустачка хлеба падала на падлогу, то трэба было абавязкова падняць і пацалаваць, бо хлеб – ад Бога. Мама скончыла ўсяго чатыры класы польскай школы (мой родны Бярозаўскі раён да 1939 года быў «пад Польшчай»), але магла пісаць вершы і добра маляваць. Помніцца, калі мы з вёскі Пешкі пераехалі жыць у Бярозу, то замест шпалер тады было модным чыста пабеленыя сцены распісваць нейкімі ўзорамі. І мама сама распісала ўсю хату прыгожымі кветкамі.

**– Дык вось адкуль у дачкі паэтычнае бачанне свету! Мама, відаць, была задаволена, калі вы сталі друкавацца, выдаваць кнігі?**

– Так, яна радавалася. Першы мой верш быў надрукаваны ў бярозаўскай раёнцы, калі мне было 12 гадоў – у 1959-м. Тады якраз у акіяне згубілася савецкая баржа з матросамі, маладымі хлопцамі. Іх толькі праз два тыдні змаглі адшукаць. Помню, па радыё расказвалі, як яны выжывалі на той баржы – са скураных мяхоў гармоніка суп варылі… Уся краіна святкавала выратаванне матросаў, і я верш напісала, які быў надрукаваны з подпісам «Рая Баравікова, вучаніца 6 «В» класа Бярозаўскай СШ». Я ў мамы выпрасіла грошы, купіла цэлы стос газет і раздала ўсім у класе.

**– І настаўнікі ж, мабыць, ганарыліся вучаніцай-паэткай?**

– Помню дзвюх настаўніц: Еўдакія Лук'янаўна Бягляк выкладала рускую мову і літаратуру, а Ганна Канстанцінаўна Жэшка – беларускую. А потым пад сваё крыло мяне ўзяў рэдактар раёнкі Яўген Васільевіч Сяленя, добрай душы чалавек, цяпер ганаровы грамадзянін Бярозы. Ён запрасіў мяне ў раённае літаб'яднанне «Крыніца», дзе я пазнаёмілася з паэтамі-пачаткоўцамі – дзевяцікласнікам Алесем Разанавым і дзесяцікласнікам Толікам Казловічам.

**– Дык у добрую кампанію трапілі. Светлай памяці Анатоль Казловіч потым кінуў паэзію і стаў выдатным журналістам, быў нават спецкарам «Литературной газеты» па Беларусі. Вы ж таксама, здаецца, хацелі падацца ў журналістыку?**

– Так, пасля школы я трапіла на працу ў быхаўскую раённую газету і мела намер паступаць на журфак БДУ. Але аднойчы ў Быхаў прыехалі з Магілёва паэты Аляксей Пысін і Васіль Матэвушаў і запрасілі мяне разам з імі пачытаць вершы ў Доме культуры. Гэта было маё першае выступленне перад публікай. Відаць, Пысін убачыў ва мне нейкую творчую іскарку і ўгаварыў ехаць у Маскву, у Літінстытут.

### «Увагі ў Маскве з мужчынскага боку хапала»

**– Дзевятнаццацігадовая прыгожая дзяўчына з Быхава прыязджае ў Літінстытут, дзе норавы panавалі даволі свабодныя. Прызнайцеся, хто з будучых класікаў да вас заляцаўся?**

– Увагі ў Маскве з мужчынскага боку хапала. Скажам, я была вельмі добра знаёмая з Колем Рубцовым. Дзесьці ляжыць у мяне кніжка з яго аўтографам. Добра помню Юрыя Кузняцова, нашага беларуса Івана Ласкова. Яго вельмі цаніў літінстытуцкі прафесар і паэт Леў Озераў. Іван ужо тады быў аўтарам вядомай паэмы пра Тамерлана «Хромец» (потым ён перапісаў яе па-беларуску і назваў «Кульга»). Дарэчы, Леў Адольфавіч заахвочваў мяне паўсюдна выступаць і заўсёды прасіў, каб я чытала верш пра дзяўчынку на шары. Дарэчы, я да гэтай пары яго ў школах чытаю. Уяўляеце, сямідзесяцігадовая бабуля, і – «*Я дзяўчынка на шары, / што плыве у блакіце! / І палаюць Стажары / нада мною ў зеніце...*».

**– Сапраўднаму натхненню і ўзрост не замінае.**

– А што такое натхненне? Памятаю, мая бабуля з Магілёўшчыны расказвала, як нехта раптоўна памёр – паваліўся і *не тхнуў*. Значыць, натхненне звязана з дыханнем, з духам. Паэзія можа натхніць на дабро, можа нават лекаваць людзей. Скажам, у Максіма Багдановіча ёсць вершы, да якіх проста душой горнешся, іх хочацца перачытваць. А вазьміце кнігу Уладзіміра Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду» – там з кожнага верша энергетыка імгненна перадаецца.

**– Шкада, што гэткая невычэрпная крыніца энергіі застаецца сёння малазапатрабаванай.**

– Вельмі шкада. Увогуле, як мне падаецца, праз 15–20 гадоў на зямлі запануе нейкая абсалютна новая цывілізацыя. Я па сваіх унуках гэта бачу.

**– Але ж паэзія застанецца?**

– Застанецца, бо яна вечная. Я не хачу пакрыўдзіць нашых спартсменаў, мне вельмі Дар'я Домрачава падабаецца. Але вось паглядзіце на гісторыю Алімпійскіх гульняў, якія пачаліся ў Старажытнай Грэцыі. У школьным падручніку змешчаны малюнак старажытнагрэчаскага дыскабола. А як яго звалі? Мы не ведаем ніводнага імя тагачаснага алімпійскага чэмпіёна, яны да нас не дайшлі. Але мы выдатна ведаем іх сучаснікаў – Катула, Вергілія, Арыстоцеля… Іх творы дайшлі да нас, і чалавецтва імі ганарыцца, гэта падмурак цывілізацыі!

**– І тым не менш героямі нашага часу з'яўляюцца спартсмены. Сучасныя катулы і вергіліі дзяржаву нашу амаль не цікавяць.**

– Але грамадства не можа гарманічна развівацца, калі доўгі час мае месца ўхіл у адзін нейкі бок. Мне вельмі хочацца пасябраваць з нашымі спартсменамі, пачытаць ім вершы, каб і яны далучыліся да нашага прыгожага пісьменства, да беларускай паэзіі. Калі б у свеце ладзіліся паэтычныя алімпіяды, нашы паэты заваёўвалі б першыя месцы – хоць у Амерыцы, хоць у Парыжы. Я недзе чытала, што калі Аляксандр Македонскі заваяваў горад Фівы, ён сказаў сваім ваярам: «Рабуйце ўсё, не чапайце толькі дом паэта з бібліятэкай». Разумеў, што застанецца, а што незваротна схлыне ў рацэ часу.

### «Паступова я адстаяла сваё права на любоўную лірыку»

**– Сёння нікога не здзівіш эротыкай у паэзіі, празмерным інтымам у прозе. А як вам у 1970-я гады ўдавалася друкаваць інтымную лірыку, абсалютна ігнаруючы грамадзянскія тэмы?**

– Даводзілася адстойваць сваё права. Памятаю, я тройчы прыносіла свае вершы ў часопіс «Маладосць», дзе за паэзію адказваў Мікола Аўрамчык. Ён мае творы не адкідаў, але прасіў напісаць два-тры грамадзянскія вершы, у тыя часы яны зваліся «паравозікі». Ставіліся наперадзе – і выцягвалі нізку ці нават кнігу. Але грамадзянскія вершы ў мяне не атрымліваліся. Што рабіць? І я адважылася на містыфікацыю – вырашыла паслаць вершы ў рэдакцыю пад псеўданімам Зося Гоман.

**– Бо за вамі ўжо замацаваўся імідж безнадзейна лірычнай, не сугучнай эпосе паэткі?**

– Ну так. Мы з сяброўкай Аленай Паповай дамовіліся, што, калі вершы прымуць да друку, я пашлю яе фота. А пасля публікацыі прыйду ў рэдакцыю і расшыфруюся. Паслала вершы, чакаю рэакцыі. Праз тыдзень – званок у дзверы, адчыняю – на парозе здзіўлены Мікола Аўрамчык: «Рая, што ты тут робіш? А дзе Зося Гоман?» Давялося прызнацца.

**– А з вершамі што сталася?**

– Пайшлі ў друк! Усе! Іх жа Генадзь Бураўкін (ён быў тады рэдактарам «Маладосці») ужо падпісаў у нумар. Быў, памятаю, нейкі пленум Саюза пісьменнікаў, на якім Барыс Сачанка з трыбуны кінуў папрок: «На жаль, у беларускай літаратуры няма такіх твораў, як некалі ў Дастаеўскага, калі Бялінскі праз увесь Пецярбург ішоў ноччу да Фёдара Міхайлавіча, каб сказаць, якую выдатную аповесць той напісаў». А нехта з задніх шэрагаў выгукнуў: «Чаму ж няма? Вунь Аўрамчык ездзіў да Баравіковай». І вось так паступова я адстаяла сваё права на любоўную лірыку.

### «Сучасная моладзь сказала б: Баравікова запала на Дзіна Рыда»

**– Усё чалавецтва ўжо 400 гадоў здзіўляецца, як Шэкспір змог не паўтарыцца ў сваіх лірычных 154 санетах. А я дзіву даюся, як не паўтараецеся ў сваёй лірыцы вы. Гэта ж якая пачуццёвая палітра павінна быць...**

– Думаю, у кожнай жанчыны багатая пачуццёвая палітра. Мне яшчэ дапамагае ўяўленне. Памятаю, выйшаў альбом мастака Напалеона Орды, я прачытала яго біяграфію, паглядзела на яго партрэт – які прыгожы мужчына, шлюб з француженкай… Але на ягоных малюнках няма людзей – адны сядзібы, маёнткі. І я пачала засяляць іх людзьмі, іх пачуццямі, напісала цэлы лірычны цыкл. Орда натхніў мяне сваімі малюнкамі.

**– Напалеон Орда жыў у XIX стагоддзі. А бліжэйшыя па часе натхняльнікі былі?**

– Неяк ансамбль «Верасы» пасябраваў з амерыканскім спеваком Дзінам Рыдам. І раптам ён у 1981 годзе прыехаў у Мінск. Неверагодна прыгожы мужчына! Калі б гэта адбывалася сёння, то сучасная моладзь сказала б: Баравікова запала на Дзіна Рыда. Мне так хацелася пабачыць яго жывога! І дастаткова было патэлефанаваць кіраўніку «Верасоў» Васілю Раінчыку, папрасіцца на рэпетыцыю. Але я не асмелілася… Ад таго пачуцця застаўся толькі верш «Купіць білет і слухаць Дзіна Рыда».

### «І бэз з вачамі Дон Жуана...»

**– Часам паэты любяць адштурхнуцца ад чужога радка, як ад трампліна. А з вамі падобнае здаралася?**

– Неяк на Лагойшчыне праходзіў семінар маладых паэтаў Міншчыны, на які запрасілі Галю Каржанеўскую, Лёню Дранько-Майсюка, Люду Рублеўскую, Віцю Шніпа. Мы дзяліліся з моладдзю літаратурным вопытам. Быў месяц май, цвіў бэз. Неяк мы праходзілі міма бэзавага куста, і раптам Дранько-Майсюк кажа: «Бэз з вачамі Дон Жуана». Я папрасіла: «Лёня, падарыце мне гэты радок!» – «Калі ласка!» І ў мяне напісаўся цэлы цыкл, які я так і назвала – «Бэз з вачамі Дон-Жуана». Я хацела прысвяціць яго аўтару загалоўнага радка, але спалохалася, што могуць узнікнуць розныя плёткі. І нават патэлефанавала Лёневай жонцы Вользе...

**– Вырашылі перастрахавацца?**

– Проста растлумачыла, адкуль узяўся той Дон-Жуан.

**– Адна з вашых кніг мае назву «Люстэрка для самотнай». Стан самоты для вас характэрны?**

– Дык яшчэ ў Біблії сказана: «Сэрца мудрых – у доме плачу, а сэрца бязглуздых – у доме весялосці». І мой муж таксама любіць самоту. Скажам, яму не падабаецца, калі я доўга размаўляю па тэлефоне. Сяброўка Лена Папова калі тэлефануе, то заўжды пытаецца, ці дома Сяргей…

**– А дзе вы з мужам пазнаёміліся?**

– Дома. Калі я атрымала кватэру ад Саюза пісьменнікаў, мяне перавозіў сябра Міша Пташук. І неяк ён не так усталяваў халадзільнік «Саратаў» – той вельмі гучна тарахцеў. Былі прэтэнзіі ад суседа – і раз, і другі. Нарэшце ён прыйшоў са сваім сябрам, і той усё паправіў. Потым той сябра, якога звалі Сяргей, прапанаваў тэлеантэну на балкон вывесці, потым – кран параманціраваць... А прыкладна праз год ён зрабіў мне прапанову. І я вельмі ўдзячная лёсу за гэты выпадак. Мы разам ужо каля 40 гадоў.

### «Муж мне на 8 Сакавіка ніколі нічога не падарыў»

**– Што, на вашу думку, ёсць зарукай трывалай сям'і?**

– Каханне, якое трэба ўмець берагчы. Вось калі чалавек садзіць сад, ён жа яго даглядае, гадуе. Так і каханне неабходна гадаваць і аберагаць. Жарсць – як знічка ў небе, успыхне і няма. А калі кахаеш, то хочацца дагадзіць любімаму чалавеку. Я люблю дагаджаць, мне самой гэта прыносіць задавальненне.

**– А каб вам дагаджалі, любіце?**

– Паверце, што не, я самадастатковы чалавек. І непатрабавальны. Між іншым, муж мне на 8 Сакавіка ніколі нічога не падарыў.

**– Як такое можа быць?**

– Проста ён не прызнае свецкіх святаў. Мяне віншуюць сын, дачка і ўнукі. А муж любіць рабіць падарункі пад настрой. Захочацца яму – пойдзе і купіць мне французскую парфуму, вельмі дарагую, ці крэм вельмі якасны. Я нават часам крычу, што столькі грошай патраціў… А калі наша дачка яшчэ хадзіла ў дзіцячы садок, ён аднойчы купіў цэлую машыну кавуноў, падагнаў яе да садка і ўсім дзеткам у групе падарыў па кавуне! Дачка да гэтага часу ўспамінае. Я не ўяўляю свайго жыцця з кім-небудзь іншым. Сяргей – той чалавек, з якім мне хочацца быць побач штодня. Я адчуваю сябе шчаслівай жанчынай!

**– Гэта адчуваецца па вашых вершах, яны надзіва гарманічныя. А вы мужу іх чытаеце – пад настрой?**

– Ні ў якім разе! Мне нават страшна пра гэта падумаць! Мой муж – я яму за гэта вельмі ўдзячная – бачыць толькі вокладкі маіх кніг. Хоць ён вельмі адукаваны чалавек, цытуе Біблію, класікаў, разумее паэзію. Ён па прафесіі праграміст, ноўтбук мне купіў. Вось я падумала: калі б мяне запрасілі пачытаць вершы перад залай, дзе сядзеў бы муж, я адмовілася б.

**– Вы любіце частаваць сяброў варэннем уласнага вырабу. Але пад вашым балконам я не бачу ні саду, ні гароду.**

– Мы з мужам яшчэ ў 1982 годзе набылі сядзібу ў Уздзенскім раёне – сялянскую хату з ладнай дзялянкай зямлі, з садам. Божа, як я люблю там бываць! Займацца гародам, кветкамі. Мы захавалі стары сад і пасадзілі новы, ён ужо пладаносіць. Раніцай, калі яшчэ сонца няма, выйдзеш на ганак – шапаценне ў яблынях, птушкі прачынаюцца. Не хочацца адтуль з'язджаць.

### «Беларускім жанчынам трэба больш актыўна ісці ў палітыку»

**– Мне вельмі падабаецца ваш верш «Птушачка» – пра бабулю, якая лепіць з гліны птушак. Там, праўда, нейкі дзіўны эпіграф: бабіна дарога – ад печы да парога…**

– Дык я ў тым вершы якраз і сцвярджаю адваротнае: «*Збанкі і чыгункі тырчаць на плоце, / прыблудны цуцык трэцца каля ног, / ды знаў бы хто, – жыццё прайшло ў палёце, / хоць і было ў ім – печка ды парог*». Памятаю, як мая бабуля Галена рабіла птушачак з цеста, іх у нас на Бярозаўшчыне называлі *галёпы*. І, калі прыляталі першыя буслы, мы, дзеці, бралі выпечаных птушачак, выходзілі ў двор і крычалі ў неба: «Бусел-бусел, на табе галёпу, дай мне жыта!» Гэта было сапраўднае свята!

**– Можа, гэты прыгожы звычай захаваўся дзе-небудзь у глыбі Палесся?**

– Хацелася б. Мне яшчэ хутары ўспамінаюцца – як аазісы пасярод балот. Згаданы Напалеон Орда, вярнуўшыся з Парыжа на радзіму, быў захоплены старасвецкімі сядзібамі і пісаў свайму сябру Ігнату Дамейку: «Вазьму ў рукі алоўкі і пайду замалёўваць рэшткі былой славы нашай цывілізацыі». Гэта была цэлая цывілізацыя! Помню, на дзядоўскім хутары мяне, малую, садзілі на мяжы, і я гуляла з мяцёлачкамі проса.

**– Я пра «бабіну дарогу» нездарма спытаўся. Старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім збіраецца ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах. Як вы да гэтага ставіцеся?**

– Алена мне вельмі сімпатычная. Гэта сапраўдная беларуска па характары, па манеры трымацца. Я ёю проста захапляюся. Паглядзіце, у Літве прэзідэнт – жанчына, у Эстоніі – жанчына, Кабінет міністраў у Вялікабрытаніі ўзначальвае жанчына. Канцлер Германіі Ангела Меркель мне таксама вельмі падабаецца. Я лічу, што і беларускім жанчынам трэба больш актыўна ісці ў палітыку. Калі яшчэ дазваляе ўзрост, калі не зрасходавана энергія, маюцца ідэі. Таму я хоць сёння гатова галасаваць за Анісім! Ёсць жаночая салідарнасць, а значыць, і шанцы ў яе ёсць.

